*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦЫШКА СКАРЫНЫ

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 47 (586) 18 СНЕЖНЯ 2002 г.

## З Калядамі вас, шаноўныя беларусы!



## Святкуем па-беларуску

**Дарагія людзі!**

Неўзабаве – любімыя ўсімі зімовыя святы: Каляды і Новы год. Таварыства беларускай мовы заклікае адсвяткаваць іх прыгожа, па-беларуску. Набывайце віншавальныя паштоўкі і канверты на роднай мове. Кажыце адно аднаму пяшчотныя і ласкавыя словы, пажаданні, набывайце аўдыёкасеты і кампакт-кружэлкі з каляднымі песнямі. Хай Вашы святочныя сталы ўпрыгожаць старадаўнія беларускія стравы: аладкі, куцця ячная, аўсяны жур (кісель), грыбная поліўка, селядзец. Узгадаем нашы напоі: узвары фруктовыя, медавуху, – і добрую традыцыю піцця – на сямёх сотку, а таксама вясёлыя калядныя спевы, жарты, гульні – усё тое, што складае народную духоўную спадчыну.

Прыемных і запамінальных народных святаў!

**Сакратрыят ТБМ.**

## Сустрэча ў ТБК

Напрыканцы лістапада адбылася суустрэча ў ТБК з старшынём фонду Льва Сапегі з Горадні Уладзімірам Хільмановічам. Летам група актывістаў ТБК здзейсніла вандроўку ў гэты старажытны горад, наведала музей М. Багдановіча, Каложскую царкву, палацы, тады адбылася сустрэча ў фондзе Л. Сапегі. Ул. Хільмановіч выконваў песні пад гітару. У Вільні вандравалі па старажытных беларускіх мясцінах. У Горадні выйшаў першы нумар газеты “Свой лад”, беларусы – віленчукі сталі першымі чытачамі. У выдавецтве ТБК выйшла чарговая кніга Р. і В. Астроўскіх “Гістарычная нарысы. Беларусь у X-XYI стагоддзях”, яна падарунак для гарадзенцаў. Наладзіліся добрыя, сяброўскія стасункі. Каждая сустрэча з цікавымі людзьмі – падзея.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

*Алесю Лозку – 50*

## *Вельмішаноўны спадар Алесь!*

Таварыства беларускай мовы шчыра віншуе Вас, навукоўца, педагога, прэзідэнта Таварыства беларускай школы, сябра ТБМ, — з “залатым” юбілеем. Плён Вашага шматграннага таленту вядомы ўсім тым, каго цікавіць беларушчына. Вы спраўдзіліся сур’ёзным фалькларыстам, вярнулі да жыцця беларускі народны лялечны тэатр Батлейку, сталі ініцыятарам адраджэння скаўцкага руху. Вашы пошукі і даследаванні пабачылі свет у шэрагу выданняў. Сярод іх сапраўднымі залацінкамі, што ўпрыгожваюць Ваш юбілей, — кнігі: “Гульні, забавы, ігрышчы”, “Беларускі народны каляндар”, “Беларускі скаўтынг”, “Беларуская батлейка”. І гэта толькі часцінка Вашай шматгадовай карпатлівай працы, вынікам якой карыстаецца, бадай, кожны свядомы беларус.

Жадаем Вам і Вашай сям’і добрага здароўя, дабрабыту, шчасця, трывласці ды шмат шчырых сяброў. Няхай гэтая “залатая” жыццёвая мяжа стане шчаслівай стартавай пляцоўкай для новых набыткаў і здзяйсненняў на карысць роднай Бацькаўшыны.

***Сакратарыят ТБМ.***

| | |
|---|---|
| МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ<br>**Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі**<br>АКПА 00027626 вул. Савецкая, 9<br>220010, г. Мінск, тэл. 222 68 48<br>факс (017) 220 84 83 | МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ<br>**Главное управление общего среднего образования**<br>ОКПО 00027626 ул. Советская, 9<br>220010, г. Минск, тэл. 222 68 48<br>E-mail: root@minedu.unibel.by |

06.12.2002 № 19-06/1239

Грамадскае аб’яднанне
“Таварыства беларускай мовы
імя Францішк Скарыны”
Трусаву А. А.
Вул. Румянцава, 13,
220005, г. Мінск

**Паважаны Алег Анатолевіч!**

У сувязі з Вашым зваротам Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі паведамляе наступнае.

Міністэрства адукацыі даручыла аддзелу адукацыі Бярэзінскага райвыканкама прыняць усе неабходныя меры, каб захаваць у горадзе Беразіно беларускамоўную гімназію.

Начальнік Галоўнага ўпраўлення
агульнай сярэдняй адукацыі **У. К. Шчэрба.**

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, “Наша слова”!*

# ЗАКЛІК

**дэлегатаў канферэнцыі Магілёўскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" да міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь**

Кіруючыся палажэннямі Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, Дэкларацыі аб правах дзіцяці, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Закона аб адукацыі, Закона аб мовах, іншых законаў Рэспублікі Беларусь, вынікамі травеньскага рэферэндуму 1995 года, вынікамі перапісу насельніцтва 1999 года;

**адзначаючы** неадпаведную гэтым дакументам значную нераўнапраўнасць беларускай і рускай моваў у дзяржаўным ужытку і ў грамадскіх сферах, калі беларускамоўны чалавек раз-пораз падпадае пад залежнасць ад рускамоўнага ўрача, які не ведае, што такое "ныркі" ці "страўнік", рускамоўнага сакратара судовага паседжання, які не можа занатоўваць прамову беларускамоўнага сведкі ці іншага ўдзельніка судовага працэсу, перакладаючы яе на свой лад і скажаючы сэнс, рускамоўнага начальніка газавай гаспадаркі, які не лічыць патрэбным мець квіткі па разліку за газ на тытульнай мове дзяржавы, рускамоўнага дырэктара школы і загадчыка аддзела адукацыі, якія лічаць жаданне аднаго з бацькоў вучыць сваё дзіця на роднай мове капрызам, не вартым увагі, і многіх іншых службовых асоб, чыя (часта недасканалая і засмечаная) руская мова незаконна дамінуе ў нашай дзяржаве;

**адзначаючы** пры гэтым паступовы рост той часткі насельніцтва гарадоў і раённых цэнтраў Беларусі (і Магілёўшчыны ў прыватнасці), якая, не гледзячы на пазначаныя вышэй цяжкасці, імкнецца штодзень карыстацца роднай мовай і праз гэтую мову навучаць сваіх дзяцей асновам навук і культуры, развіваць іх творчыя якасці і мастацкія здольнасці

**і ухвальваючы** сціплыя спробы міністэрства адукацыі падтрымаць памкненні гэтай часткі насельніцтва распрацоўкай "Праграмы дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" і дадатковымі пастановамі (у прыватнасці, пастановай аб адкрыцці беларускага класа ў любой школе пры наяўнасці трох заяў бацькоў),

**дэлегаты канферэнцыі лічаць** прынятыя міністэрствам адукацыі меры па абароне, падтрымцы і развіцці роднай мовы недастатковымі і заклікаюць міністэрства больш актыўна спрыяць пашырэнню беларускамоўнай адукацыі ад дзіцячых садкоў да вышэйшых навучальных устаноў, дзеля чаго:

**1) адкрыць** у абласных цэнтрах і гарадах абласнога падпарадкавання беларускамоўныя ўстановы элітнай адукацыі – гімназіі, ліцэі – з магчымасцю прыёму туды вучняў з раёнаў вобласці;

**2) заахвочваць** беларускамоўнае выкладанне вучэбных дысцыплін у рускамоўных школах падвышэннем зарплаты ці адпаведным прэміраваннем настаўніку;

**3) перавесці** на беларускую мову дзіцячыя дамы, іншыя дзіцячыя ўстановы, якія займаюцца выхаваннем і навучаннем дзяцей абяздоленых, у якіх бацькі адсутнічаюць ці па іншай прычыне не могуць выказаць свайго жадання аб мове выхавання і навучання;

**4) паставіць** вывучэнне беларускай мовы ў школах на такі ўзровень, каб выпускнік школы з добрай адзнакай па мове гэтай мовай свабодна валодаў (бо зараз нават выпускнік з самай высокай адзнакай не можа, за рэдкімі выключэннямі, свабодна размаўляць па-беларуску);

**5) вырашыць** праблему беларускамоўнага навучання аднаго школьніка (яскравы прыклад з сям'ёй Каральковых з г. Горкі, якая дамагаецца для сваёй дачкі, пяцікласніцы, магчымасці навучання на роднай мове, і паколькі ніводнага беларускага класа ў г. Горкі няма, дзяўчына з 1 верасня г.г. вымушана займацца самастойна дома); для такіх школьнікаў трэба забяспечыць магчымасць самастойна вывучаць праграмны матэрыял распрацоўкай і выданнем беларускамоўных падручнікаў, з'арыентаваных на такое вывучэнне, пры кансультатыўнай дапамозе кваліфікаваных настаўнікаў.

У сённяшніх умовах беларуская мова, тытульная мова нашай дзяржавы, мова з доўгай і слаўнай гісторыяй, патрабуе абароны і апекавання. У тым ліку і найперш – з боку міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

*Прынята адзінагалосна 23 лістапада 2002 года.*



## Не стала Сяргея Грахоўскага

Год не дажыўшы да свайго дзевяностагоддзя, пайшоў ад нас адзін з патрыярхаў беларускай літаратуры Сяргей Грахоўскі.

Нарадзіўшыся ў час, калі яшчэ тварылі для Беларусі Багдановіч і Цётка, прыйшоўшы ў літаратуру ў канцы 20-х, Сяргей Іванавіч трапіў у жорны 1936-га і чарпнуў гора поўнай лыжкай, адбыўшы ў ГУЛагу 10 гадоў. У 1949 годзе арыштаваны паўторна і адседзеў яшчэ 6 гадоў. Рэабілітаваны ў 1955-м годзе.

Выдаў каля дзесятка зборнікаў. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Куляшова і Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Пахаваны Сяргей Грахоўскі на Маскоўскіх могілках Менска поблізу магілы Генадзя Карпенкі.

**Рэдакцыйную калегію, супрацоўнікаў і чытачоў "Нашага Слова"**

Вітаем зь беларускім нацыянальным сьвятам – Днём Герояў Беларусі – 82-мі ўгодкамі Слуцкага Збройнага Чыну, які быў вайной Бяларускай Народнай Рэспублікі з савецкай Расеяй за захаваньне незалежнасьці БНР. Гэта было змаганьне беларускга народу з акупантам за права быць гаспадаром на сваёй собскай зямлі.

Цяпер, так як 82 гады таму назад, беларускі народ апынуўся перад пагрозай страты сувэрэннасьці, гэтым разам, Рэспублікі Беларусь. Пагроза ізноў ідзе з боку таго самага "Усходу крывавага й дадзелага, што лёс на каркі нам усклаў".

Абавязак бараніць сувэрэнітэт Беларусі ляжыць на кожным з нас, дзе бы мы ня былі – у Беларусі, ці на эміграцыі. Дзеля гэтага нам трэба, перадусім, мацаваць наш беларускі нацыянальны дух, беларускі патрыятызм. Дзеля гэтага нам трэба дбаць пра стварэньне вакол кожнага з нас беларускамоўнай прасторы, бо без пашаны й любоў'і да свае роднае беларускае мовы, ня можа быць беларускага нацыянальнага патрыятызму – волі да здабыцьця дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі.

Жадаем вам добрага здароўя й багатых плёнаў у працы накіраванай на карысьць беларускай вызвольнай справы.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Бэры, Канада, лістапад, 2002 г.

**За кіраўніцтва ККБК Др. Раіса Жук-Грышкевіч, былы Старшыня ККБК.**

## 82-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну ў Вільні

"Яны паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына", -- гэтыя словы вышытыя рукамі беларускіх сялянак на сцягу Слуцкіх паўстанцаў, перадаюць безмежную ахвярнасць для беларускай нацыянальна – вызвольнай ідэі, яна натхняла іх на вялікія здзейсненні.

27 лістапада традыцыйна кожны год у Таварыстве Беларускай Культуры адзначаюцца ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. У гэтым годзе адбыліся дзве імпрэзы ў ТБК у лістападзе, прысвечаныя юбілею Якуба Коласа і Слуцкаму паўстанню. Старшыня ТБК Хведар Нюнька зачытаў прывітанне ад прэзідэнта рады БНР Івонкі Сурвілы. Потым выступіў госць з Менску, старшыня суполкі мастакоў "Пагоня" Мікола Купава, ён павіншаваў віленчукоў з угодкамі слуцкіх паўстанцаў, распавёў як адзначалі гэты дзень у Беларусі ў пачатку 90-х гадоў і цяпер. Пра Я. Коласа і Вільню расказала Л. Мілаш.

Потым Хведар Нюнька паведаміў прысутным, як вядзецца праца па аднаўленню беларускага музея ў Вільні імя Івана Луцкевіча. Гэта пытанне старшыня ТБК падымаў і перад камісіяў экспертаў з саюза еўразвязу. Закончылася святкаванне канцэртам. Беларускія народныя песні выконвалі сёстры Маргарыта і Эмілія Стральчэні, некалькі песень выканаў Андрусь Старавойтаў.

*Леакадзія Мілаш,*
*г. Вільня.*

# Сейлавіцкай школе -- 40 гадоў



7 снежня Сейлавіцкая сярэдняя школа Нясвіжскага раёна святкавала сваё 40-годдзе. На будоўлю гэтай школы дзяржава не дала ні капейкі. Школа будавалася ў асноўным на сродкі мясцовага калгаса "Світанне" і з дапамогай тутэйшых жыхароў.

Свята сабрала настаўнікаў і выпускнікоў розных гадоў. Нажаль, з настаўнікаў, якія працавалі ў 1962 годзе, сёння ў жывых засталося толькі шэсць чалавек, на свята прыйшло чацвёра.

З колішніх вучняў, безумоўна, самым ганаровым госцем быў Славамір Хіневіч, першы ўладальнік прыватнай клінікі пластычнай хірургіі ў Менску. А ўсяго школа за 40 гадоў выпусціла 1300 чалавек. Сярод іх шмат старшыняў калгасаў, аграномаў, настаўнікаў, афіцэраў, работнікаў культуры, спецыялістаў у іншых сферах чалавечай дзейнасці. Паміж выпускнікоў два сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў: Кастусь Жук і Станіслаў Суднік.



Школу павіншавалі з 40-годдзем абласное ўпраўленне адукацыі, абласная прафсаюзная арганізацыя, сельсавет, калгас, дом культуры. Дапамагалі ў арганізацыі свята тры калгасы раёна.

**На здымках:**

**1.** Выступае дырэктар школы ў 1962 годзе Антульскі Збыслаў Іосіфавіч.

**2.** На пярэднім плане настаўнікі, якія працавалі ў 1962 годзе: Дырэктар Антульскі З. І., настаўнік геаграфіі, астраноміі, вайсковай справы Троська К. К., завуч і выкладчык гісторыі ды грамадазнаўства Кароль М. І.

*Яраслаў Грынкевіч.*

